*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 34 (621) 17 ВЕРАСНЯ 2003 г.

## У Амбасаду ЗША

Сакратарыят Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" выказвае спачуванне амерыканскаму народу ў сувязі з другой гадавінай трагедыі, якая напаткала Злучаныя Штаты Амерыкі 11 верасня 2001 года.

Мы асуджаем тэрарыстаў, па віне якіх загінулі тысячы ні ў чым непавінных людзей.

Хай памяць пра гэта дапаможа нам усім супрацьстаяць злу, быць пільнымі, каб падобнае ніколі не паўтарылася.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў.

## *Паланэзы зноў танчаць у Залессі,*

### або да нацыянальнай спадчыны нарэшце спрабуюць падысці з сур'ёзных пазіцый

***4 - 5 верасня ў радавой сядзібе Агінскіх Залессе Смаргонскага раёна прайшла Міжнародная канферэнцыя " Гістарычныя сядзібы Беларусі: стан і будучыня".***

***Перад пачаткам канферэнцыі быў адкрыты камень "Памяці роду Агінскіх" работы лідскага скульптара Рычарда Грушы.***

*Працяг тэмы на ст. 3.*



Падчас канферэнцыі




Скульптар Рычард Груша і Адам Мальдзіс каля каменя "Памяці роду Агінскіх" у Залессі, радавой сядзібе Агінскіх, 4 верасня 2003 года. На камені выбіты старажытны герб княжацкага роду агінскіх "Агінец"

# Алесю Белакозу - 75

11 верасня споўнілася 75 гадоў з дня нараджэння нястомнага змагара за Беларушчыну, сябра ТБМ ад моманту заснавання Алеся Белакоза.



Алесь Белакоз усвядоміў сябе беларусам у раннім дзяцінстве, яшчэ пры Польшчы. Ад тога часу і да сёння нясе Алесь Мікалаевіч свае і крыж, і сцяг беларуса. Сваім яркім жыццём спадар Алесь паказаў, колькі можа зрабіць для Радзімы, для мовы, для людзей звычайны вясковы настаўнік са звычайнай вёскі Гудзевічы Мастоўскага раёна.

Алесь Белакоз нёс свой беларускі гонар у самыя антыбеларускія савецкія часы, у адзіночку змагаючыся з сістэмай, ствараючы славуты на ўсю Беларусь Гудзевіцкі музей. Легендай стаў выпадак, калі недзе ў 70-я гады Алесь Белакоз адмовіўся даваць інтэрвію ўсесаюзнай праграме навінаў "Время" на рускай мове, пакінуўшы журналістам выбар або рабіць пераклад або не рабіць рэпартаж зусім.

Алесь Белакоз заслужыў глыбокую павагу на Гарадзеншчыне і за яе межамі. 13 верасня прадстаўнікі шырокай грамадскасці сабраліся ў Гудзевічах, каб павіншаваць юбіляра.

Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" са свайго боку шчыра віншуюць юбіляра і жадаюць доўгіх гадоў, здароўя, а што Алеь Белакоз адкажа адданай працай,у тым сумнення няма ні ў кога.

## Сімволіка ТБМ унесена ў Дзяржаўны геральдычны рэгістр

21 жніўня 2003 г. Камітэт па архівах і справаводству пры Савеце Міністраў Рэспубллікі Беларусь пацвердзіў Палажэнне аб эмблеме ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" ды ўнёс нашу сімволіку ў Дзяржаўны геральдычны рэгістр Рэспублікі Беларусь за № Б-93. Мы друкуем тэкст зацверджанага Палажэння і просім звярнуць увагу на яго ў першую чаргу кіраўнікам нашых рэгіянальных структур, якія карыстаюцца сімволікай ТБМ.

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны" Алег Трусаў.**

*(Тэкст Палажэння глядзіце на ст. 2.)*

## Віншуем сяброў, якія нарадзіліся ў верасні

Барысенка Аляксандр Ан.
Штанюк Наталля Алякс.
Яфрэмаў Алег Анатоль.
Казлоўская Іна Іосіфаўна
Содаль Уладзімір Ілліч
Гілевіч Ніл Сымонавіч
Васілеўскі Валянцін
Баран Павал
Кошчанка Уладзімір Ал.
Анісім Алена Мікалаеўна
Дзмітрыева Зося
Станкевіч Вячка
Марук Мікалай Анатоль.
Блажэй Дзмітрый Сярг.
Парфененка Вітаўт Васіль.
Дрык Юлія
Шэметава Вікторыя
Сідар Павел
Белакоз Алесь
Ліцьвінчук Алена
Мацулёў Мікалай Пракоп.
Даўгашэй Франц
Каладынская Вольга Эдв.
Корбут Віктар Андрэевіч
Коўзель Іван Уладзіміравіч
Горлаў Анрэй Валер'янавіч
Масла Марыя
Анацка Лявон Яўгенавіч
Гадзюка Юрась Аляксан.
Вяргей Валянціна
Баршчун Валянціна Дзміт.
Краснагір Аляксей Рыгор.
Новік Марыя Іванаўна
Карповіч Сямён Іванавіч
Гідлеўская Людміла
Гізун Аляксандр Мікал.
Суднік Арцём Станісл.
Мацкевіч Васіль Васільевіч
Багдановіч Алена Іванаўна
Вочка Ірына Пятроўна
Мусік Святлана Валянц.
Карэнька Зінаіда Іванаўна
Гуркоў Алесь Уладзімір.
Хляба Ігар Вітальевіч
Дзягілеў Лявон
Габрусевіч Сяргей
Зайка Антаніна Іванаўна
Лагун Таццяна
Кананові Алена
Рабкоўскі Валянцін
Булатава Зоя Міхайлаўна
Міхалькова Алена
Кануннікаў Дзмітрый С.
Данілюк Алег Іванавіч
Смольнік Вольга Георг.
Кіенка Генадзь
Ляшкевіч Сяргей Іосіфавіч





# Як я прыйшоў да беларускай мовы?

*Сяргей, псіхолаг*

Я ўпэўнены, што кожны чалавек – гэта маленькі адметны сусвет, калі ўлада ня гасіць каляровыя, зыркія зоркі ягонай душы, калі дазваляе свабодна круціцца ягоным думкам-планетам вакол ягонага сонца-ідэалу. Камуністычная ідэалогія адмаўляла ў гэтым беларусам ды іншым народам савецкай імперыі. Не чалавек, а калектыў прапагандаваўся як найвялікшая каштоўнасць. Асабістыя схільнасці, патрэбы, асабістыя пачуцці не браліся пад увагу. Усе павінны былі аднолькава думаць, мець аднолькавыя ідэалы, прадказальна паводзіць сябе. На маіх вачах шмат людзей гублялі свае аблічча, зліваліся з наваколлем, рабіліся нязгоднымі вылучаць свае погляды, жаданні, патрэбы, аддзяляць іх ад чужых думак і патрэбаў. Дагэтуль шмат каму здаецца, што яму трэба тое, што трэба ўсім. А ўладныя СМІ падказваюць, што трэба ўсім. Каб канчаткова пазбавіць чалавека сваёй апрычонасці, улада імкнецца прымусіць усіх размаўляць на адной мове, бо нават аднолькавыя думкі на розных мовах маюць адмысловыя адценні. Мой шлях да роднай мовы пачаўся з адстойвання права мець сваю нацыянальнасць, з абароны свайго аблічча, бо родная мова разам з маёй полавай прыналежнасцю, маім радаводам, гісторыяй і культурай майго этнасу ёсць прыкметаю маёй асобы. А мова стаіць у гэтым шэрагу на першым месцы, бо праз мову я асэнсоўваю з'явы, праз мову я думаю.

Вось таму я памалу пачаў яшчэ ў 1960-ых гадах вывучаць родную мову (у часы свайго школьніцтва я не жыў у Беларусі), пачаў чытаць беларускую літаратуру, рабіць для сябе, а пасля і для іншых запісы на роднай мове, складаць на ёй афіцыйныя паперы, выступаць на роднай мове, прапагандаваць яе.

*Людміла, менеджар, спецыялістка па арганізацыі прамысловых выставаў*

Мой шлях да роднай мовы быў даволі доўгі і досыць складаны, бо, хаця я нарадзілася ў Беларусі, мову ў школе не вучыла. Хоць мая маці – тутэйшая, беларуска, па-беларуску ніколі не размаўляла. Бацька быў з Расеі і з нашаю мовай не лічыўся, здзекліва казаў, што нейкі дыялект прыдумалі, мяўляў, гэтыя беларусы. Сам ён, верагодна, меў беларускія карані, бо праз тое сведчыць прозвішча, але забыўся ўжо, што ягоныя продкі былі беларусамі. Ён быў савецкі вайсковец, і таму маё дзяцінства было, "як і належыць" – савецкае, "русскоязычное". Мовы я не ведала. Але інтуітыўна адчувала, што з становішчам беларускае мовы ў нас нешта не тое. Час ад часу бывала ў бабулі ў вёсцы, дзе чула мову нашага народа, але, на жаль, бабуля была занадта маўклівая, таму пераняць ад яе багата ў моўным плане я не змагла.

Сутыкнулася з моўнай праблемай упершыню пасля заканчэння інстытута, калі атрымала накіраванне на працу ў вёску ў беларускую школу. Я прыйшла на першы ўрок (у мяне былі біялогія і хімія), пачала выкладаць матэрыял, і бачу – штосьці не тое, дзеці глядзяць на мяне спужанымі вачыма... Спачатку не магла нават зразумець, што адбываецца. Пытаюся, у чым справа, а дзеці кажуць мне: "Мы Вас не разумеем. У нас тут беларуская школа дый падручнікі ўсе беларускамоўныя". А я ні слова пабеларуску не ведаю! У мяне нібы абарвалася ўсё ўнутры: думаю, што ж я буду рабіць? Я ж зусім не падрыхтаваная да гэтай працы, куды мяне паслалі. Цяпер, магчыма, я павяла б сябе інакш: напрыклад, звярнулася ў РАНА, не пакінула б так проста гэтае пытанне. Але тады мне было 22 гады, я разгубілася зусім... Потым сказала дзецям: "Добра, наступным разам я буду выкладаць па-беларуску". Узяла гэтыя падручнікі, пачала іх чытаць, а там усё па-іншаму, тэрміналогія зусім іншая. Але я спрабавала выкладаць па-беларуску, як умела. Вядома, гэта былі вартыя жалю высілкі, і дзеці з увагі на іх, сказалі: "Ведаеце, мы бачым, што гэта Вам так хутка не адолець. Кажыце ўжо лепей па-расейску, калі што не будзем разумець – перапытаем, а Вы нам патлумачыце". Вось і думай, што хочаш: інстытут рыхтуе спецыялістаў, але не для беларускіх школ. І так у мяне ўсе аднакурснікі паехалі працаваць ў беларускія вясковыя школкі, атрымаўшы адукацыю па-расейску. Можа, каго ўратавала тое, што ён раней меў судакрананне з беларускаю мовай, але частка выпускнікоў мовы зусім не ведала. У выніку такой адукацыйнай савецкай палітыкі мы, маладыя настаўнікі, гэтых дзяцей духоўна калечылі і разбуралі беларускую школу знутры. Гэта было першае такое выпрабаванне, калі я зразумела, што нешта не тое ў гэтай краіне. Патрэба ў мове ўзнікла ў мяне упершыню, хаця яшчэ не да канца асэнсаваная.

Пасля працы ў гэтай школе я з'ехала на пэўны час у Латвію. Але застацца там не змагла. Там я адразу зразумела, што гэта іншая краіна, у іх усё сваё, і рана ці позна яны стануць незалежнымі... Гэта быў, здаецца, 1975 год. Сваёй знаёмай, якая там меркавала застаецца, я сказала: "Вучы мову, бо без мовы ты тут жыць не зможаш". Усе гавораць па-латышску: у крамах, на вуліцы, усюды. А мы, беларусы, тут усё-такі чужыя... Тады ж, пачуўшы "Песняроў", мы пачалі разумець, што ёсць беларусамі, што вось гэтая мова – нашая родная. У гэтым сэнсе "Песняры" шмат зрабілі: яны паказалі ўсяму свету, што ёсць такая краіна Беларусь, і дзе б ты не быў, пачуўшы іхнія спевы, пачынаў разумець сваю адметнасць у гэтым свеце. Вось і я тады адчула, што зусім не жадаю заставацца ў Латвіі і трэба вяртацца дадому.

Гэтак - вельмі павольна - да мяне прыходзіла гэтае разуменне, што я беларуска і ў мяне ёсць свая мова.

*Галіна, бухгалтарка*

Да беларускай мовы мне не трэба было прыходзіць, бо я нарадзілася з гэтай моваю – мае бацькі размаўлялі па-наску, у школе я вучылася на роднай мове. Але пасля з-за сваёй роднай мовы мне давялося зведаць вялікія пакуты. Трэба было перарабляць сваю псіхалогію, сваё мысленне... Так склаліся абставіны, што доўга прыйшлося жыць на Смаленшчыне - выкладаць у тэхнікуме "на чыстай расейскай мове"... Пачалі мяне перарабляць на расейскую паненку. Часткова ім гэта ўдалося, бо цягнулася тое амаль 15 гадоў, на працягу якіх я амаль не размаўляла па-беларуску. Але там - на Смаленшчыне - я выпісвала беларускамоўную газету "Чырвоная змена", што прыходзіла ў той далёкі Сычоўскі раён, можа, праз тры тыдні, так файна складзеная, запячатаная, якую я з вялікім задавальненнем чытала, атрымліваючы асалоду ад Роднай Мовы...

А вярнулася я да роднае мовы, калі зноў прыехала жыць у родную Беларусь – як распалася Савецкая імперыя... З'явіліся новыя часопісы, газеты, якія я пачала чытаць. Не перадаць словамі той радасці! Ад таго часу я пачуваюся натуральна – не карыстаюся расейскай мовай увогуле і вельмі шчаслівая, што жыву ў Сваёй Радзіме і магу карыстацца Сваёй Мовай.

*Барыс, энергетык*

У нашай сям'і размаўлялі па-расейску. Лепш за іншых валодаў беларускаю мовай дзед па бацьку: прынамсі, ён пісаў па-беларуску без памылак, аднак размаўляў чамусьці таксама па-расейску. Па-беларуску размаўляла дзяўчына, якая даглядала мяне ў маленстве. Потым бабуля згадвала, што тая звярталася да яе з словамі: "Не рагачы, бо Бора надта злуецца". Можна лічыць, што гэта было маё першае далучэнне да мовы – праз успаміны бабулі.

Падчас вайны хата, дзе мы жылі ў Менску, згарэла, і знаёмыя падказалі вольны пакой сям'і, якая з'ехала ў эвакуацыю. З'ехаўшы, яны пакінулі сярод іншых рэчаў дзіцячую кніжку Самуіла Маршака ў перакладзе на нашу мову: "Містар Твістар, былы міністар, уласнік заводаў, машын, параходаў"... Памятаю, што калі мне чыталі гэтую кніжку – вельмі падабалася слухаць, было ўсё зразумела і цікава...

Авалодаць жа роднай беларускай мовай здолеў толькі ў сталыя гады, дзякуючы чытанню кніг (бацька заўжды раіў кнігі беларускіх аўтараў чытаць па-беларуску), часопісаў і газет. Нядаўна я прачытаў у кнізе Варлена Бечыка "Радкі і жыццё" думку пра родную мову Максіма Горкага, які казаў сыну: "Родную мову трэба любіць, як маці, як музыку, і трэба ёй добра валодаць, каб перадаць сваю думку іншаму ясна і проста". Такой дасканаласцю я пакуль не авалодаў, значыць і цяпер яшчэ іду да роднай мовы, бо болей набліжаюся да яе – на працягу ўсяго жыцця.

*Надзея, бухгалтарка*

Мае бацькі па-расейску не гаварылі: хутчэй пасвойму, гэтак жа гаварыла ў дзяцінстве і я. Вельмі хораша па-беларуску размаўляла бабуля – яна з Старадарожскага раёна, там прыгожы дыялект: павольная такая гаворка, перасыпаная слоўкамі кшталту "Уга", "Ух-я" і інш. Нам, дзецям, падабалася, мы пераймалі і гэтаксама гаварылі, часам, дзеля забавы.

Вучылася я ў беларускай школе. Праўда, беларускімі былі толькі падручнікі. Адказвалі мы на ўроках па-расейску, але ўсё ж падручнікі чыталі, таму ўсю беларускамоўную тэрміналогію ведалі... Настаўніца беларускай мовы і літаратуры на пазакласным чытанні задала нам прачытаць Караткевічавы "Каласы пад сярпом тваім". Я ёй за гэта вельмі ўдзячная, бо гэта было для мяне адно з найбольш моцных школьных уражанняў, звязаных з беларускай мовай і літаратурай.

А ўжо практыкавацца ў размовах па-беларуску я пачала пазней, калі паступіла ў Эканамічны універсітэт. У нас выкладаў інфарматыку Мікола Савіцкі – па-беларуску, а жонка ягоная - спн. Глафіра – эканамічны аналіз, і таксама па-беларуску. Я ў яе пісала курсавыя і дыпломную працы – па-беларуску таксама. Лічу, у гэтым мне пашчасціла. Выкладчыкі Тэхналагічнага інстытута - Дзямід Мікола Пятровіч і Дзядзюля Павел Васілевіч ладзілі для нас, студэнтаў, вандроўкі – у Заслаўе, па Меншчыне, Лагойшчыне – вазілі, паказвалі, расказвалі. Тут і моўная практыка для нас была. Вось так, падчас свайго студэнцтва, а гэта быў пачатак 1990-ых гадоў, я і прыйшла да актыўнага карыстання беларускаю мовай.

*(Працяг у наст. нумарах.)*

# *Спачуванне*

***Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра спачуваюць народнаму пісьменніку Івану Антонавічу Брылю з прычыны вялікага гора - смерці жонкі Ніны Міхайлаўны.***

***Пайшла з жыцця Ваша палавінка, цудоўная жанчына, верная сяброўка, Ваша першая чытачка і крытык, надзейная спадарожніца па жыцці. Яна заўсёды будзе жыць у памяці тых, хто яе ведаў.***

# Палажэнне

## аб эмблеме Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"

**1. Агульная характарыстыка сімволікі.**

Эмблема ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" з'яўляецца выяўленчым сімвалам арганізацыі і мае афіцыйны статус. Яна з'яўляецца ўласнасцю ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" – адзінага карыстальніка ў межах Статута ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", заканадаўства і нарматыўных прававых актаў Рэспублікі Беларусь.

**2. Мэты заснавання.**

Эмблема заснаваная з мэтай візуальнага адлюстравання дзейнасці ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны".

**3. Поўнае візуальнае апісанне сімволікі.**

Эмблема ўяўляе сабою два кругі, паміж якіх справа ўлева ідзе надпіс: ***Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны***;

у меншым крузе сіняга колеру жоўтая - выява герба Францішка Скарыны: сонца і паўмесяц; уверсе, на кругах, выява Пагоні: чырвонага колеру тарча з чорна-белым вершнікам на кані з узнятым мячом у правай руцэ і тарчай з выявай падвоеннага раўнаканцовага крыжа на левым плячы; за тарчай перакрывае круг бела-чырвона-белая стужка. Колер – любы.

**4. Семантычнае апісанне сімволікі.**

Залатая выява герба Скарыны, беларускага першадрукара: сонца і паўмесяц, займае цэнтральную частку эмблемы і сведчыць аб ушанаванні яго памяці сябрамі Таварыства беларускай мовы. Угары круга адлюстраваны герб Вялікага княства Літоўскага XYI стагоддзя, калі беларуская мова была дзяржаўнай і мела міжнароднае значэнне.

**5. Выкарыстанне сімволікі.**

Эмблема ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" можа быць выкарыстана толькі ў межах статутнай дзейнасці самой арганізацыі-заснавальніка; напрыклад: на пячатцы, фірмовых бланках, друкаванай прадукцыі, пры выставах, святочных акцыях, мітынгах, шэсцях і д.п.

Арганізацыі, альбо асобныя грамадзяне, што здзяйсняюць дзеянні несумяшчальныя са статусам эмблемы ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", як яго афіцыйным сімвалам нясуць за гэта адказнасць у адпаведнасці з дзейным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, нарматыўнымі прававымі актамі і міжнародным правам.




*Эмблема ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"*

наша СЛОВА № 34 (621) 17 ВЕРАСНЯ 2003 г.





# Помнік народнаму гісторыку




**Барэльеф Міколы Ермаловіча на камені, ўстаноўленым у Старых Дарогах. Скульптар Уладзімір Мелехаў**

25 жніўня б. г. у Старых Дарогах на сядзібе музея выяўленчага мастацтва "Фонд Анатоля Белага", устаноўлены помнік выдатнаму гісторыку Беларусі Міколу Ермаловічу. Гэта ўжо дзесяты помнік усталяваны на сядзібе музея. Там ужо стаяць бальќа і сын Багдановічы, паэт Анатоль Бярозка, паэтка Ларыса Геніюш, гісторык Мікола Улашчык браты Луцкевічы, Васіль Быкаў, канцлер ВКЛ Леў Сапега, Еўфрасіння Полацкая, помнік героям Грунвальда.

І вось цяпер у гэтую плеяду самых знакамітых людзей Беларусі, якія ўнеслі вялізарны ўклад у развіццё культуры і навукі краіны, увялі нашу дзяржаву ў кантэкст сусветнай культуры і гісторыі трапіў і Мікола Ермаловіч.

Помнік уяўляе вялізны камень – волат вышыней 2,5 метры на якім змешчаны вучоны волат у бронзе. Вакол яго выявы надпіс: "Яго чакала Беларусь чатыры стагодзьдзі". Менавіта Мікола Іванавіч заслужыў такой высокай адзнакі і прызнання сваёй дзейнасці. І вось чаму. Чатыры стагоддзі таму Мацей Стрыйкоўскі выдаў першыя друкаваныя кнігі па гісторыі ВКЛ. Гэта "Генеалогія, альбо Кароткае апісанне Вялікіх князёў Літоўскіх (1574) і "Кроніка польская, літоўская жамойцкая і ўсяе Русі" (1582). У гэтых гістарычных працах М. Стрыйкоўскі ў значнай меры сфальсіфікаваў гісторыю ВКЛ. Асноўнай яго пасылка заключалася у тым, што літоўскія князі паходзяць з Рыму, што менавіта яны заваявалі беларускія землі і стварылі ВКЛ. На працягу чатырох стагоддзяў усе гісторыкі слепа паўтаралі гэты міф, не ўдаючыся ў навуковае прачытанне славянскіх летапісаў. Трэба было з'явіцца адважнаму гісторыку, каб узяць на сябе такую адказнасць адхіліць гэтыя міфы.

Менавіта ў 80-х гадах XX ст. з'явілася кніга М. Ермаловіча "Па слядах аднаго міфа". Тое ўражанне, якое яна выклікала ў душах шчырых беларусаў, нельга проста апісаць. Гэта трэба было прачуць самім. Але дзеля гэтага трэба было здабыць самвыдатаўскі, надрукаваны на друкарскай машынцы і дзесяткі разоў перазняты на "Эры" зашмальцаваны ад сотняў рук асобнік гэтай кнігі, за ноч яго праглынуць, каб раніцай перадаць іншаму чытачу. Каб мець яшчэ большае ўражанне аб уздзеянні Міколы Іванавіча на тагачаснае нацыянальна-свядомае грамадства Беларусі, прыгадаем і яго першае публічнае выступленне, якое адбылося 2 красавіка 1986 г. у клубе "Спадчына" па в. Мендзялеева, 3. На гэтае выступленне прыйшло каля 200 чалавек. Адной з першых у маленькае памяшканне клуба з'явілася загадчыца аддзела па ідэалогіі Менскага гаркама КПБ сумна вядомая Ядвіга Юферава (у дзявоцтве Халява), каб пасля абвінаваціць дакладчыка ў буржуазным аб'ектывізме і нацыяналізме, а клуб "Спадчыну" прычыніць ці, дакладней, забраць у клуба памяшканне. Аб тым уражанні якое панавала ад выступлення Міколы Іванавіча, яскрава сведчыць верш сябра клуба "Спадчына" Яўгена Гучка "Слова пра Міколу Ермаловіча", напісанага, як кажуць, па гарачых слядах.

З таго памятнага выступлення М. Ермаловіч стаў ганаровым сябрам клуба "Спадчына", часта наведваў клуб, выступаў на яго паседжаннях, браў удзел у многіх імпрэзах клуба, ва ўсіх дыскусіях, дзе ставіліся пытанні па гісторыі Беларусі.

Калі змяніліся палітычныя абставіны на Беларусі і часопіс "Маладосць" узяў на сябе мужнасць надрукаваць кнігу Міколы Ермаловіча, то і тут не абышлося без вялікага супраціву. Нехта з рэдакцыі стукнуў куды трэба, а там запатрабавалі ад рэдактара, каб на кнігу нехта з дактароў гістарычных навук даў станоўчую рэцэнзію і узяў палітычную адказнасць за яе друкаванне, гэта значыць каб яна не нанесла палітычнай шкоды грамадству. Там ведалі, што патрабавалі: супрацоўнік рэдакцыі Генрых Далідовіч, які быў ініцыятарам друку кнігі Міколы Ермаловіча наведаў дзевяць дактароў гістарычных навук – усю гістарычную навуковую раць таго часу, і ніводзін не згадзіўся даць станоўчую рэцэнзію.

*"А ён не прызнаны*
*ў колах, у тых,*
*Дзе бывцам глыбіннай*
*заняты работай;*
*Яго там зацята*
*ганьбяць услых,*
*Яму там*
*зайдросцяць употай"*
*(Яўген Гучок.)*

Але ўсё ж знайшоўся адзін мужны гісторык, які даў станоўчую рэцэнзію, гэта Міхась Ткачоў. Наш шчыры дзякуй усім тым людзям, якія спрычыніліся да падтрымкі Міколы Іванавіча, сапраўды народнага гісторыка які аддана служыў сваёй Радзіме, які ***"каб відушчаць табе*** (Радзіме) ***вярнуць, сабе за работай пазбавіў зроку"***

Трох гадоў няма з намі Міколы Іванавіча, ***"а думкі, а словы яго над вякамі лятуць, абуджаючы душ нашых скрыдлы..."***

У дзень гадавіны з дня смерці Міколы Ермаловіча 2 сакавіка 2001 г. сябры клуба "Спадчына" прынялі рашэнне ўвекавечыць памяць свайго ганаровага сябра помнікам і медалём. Скульптар Алесь Фінскі зрабіў медаль Міколы Ермаловіча, якім будуць ганараваць паслядоўнікаў вялікага гісторыка і усіх тых, хто спрычыніўся да папулярызацыі яго дзейнасці і творчасці, а скульптар Уладзімір Мелехаў зрабіў барэльеф.

Адзін помнік ужо ўсталяваны на сядзібе музея Анатоля Белага у Старых Дарогах. Але задача стаіць яшчэ больш важная паставіць яшчэ помнік Міколу Ермаловічу ў яго родным г. Маладэчна, надаць адной з гімназій горада імя выбітнага сына Беларусі Міколы Ермаловіча. Дай Бог, каб нам пашэнціла ў гэтым!

*А. Белчырвонабелы.*

## *Залессе ў авангардзе адраджэння гістарычных сядзіб Беларусі*

Арганізатарамі Міжнароднай канферэнцыі "Гістарычныя сядзібы Беларусі: стан і будучыня" ў радавой сядзібе Агінскіх - Залессі Смаргонскага раёна выступалі Нацыянальная камісія Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА, Дэпартамент па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі камітэт Міжнароднай рады па помніках і мясцінах, Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнае агенства па турызму і спорту, Смаргонскі райвыканкам.

Такое прадстаўніцтва арганізатараў сведчыць пра тое, што нарэшце дзяржава выказвае сур'ёзныя намеры заняцца гэтай справай. Пра сур'ёзнасць намераў сведчаць таксама падбор тэмаў канферэнцыі і склад удзельнікаў. Квінтэсэнцыяй канферэнцыі стала ідэя пра неабходнасць рэстаўрацыі гістарычных сядзібаў Беларусі і ўключэнне іх у сістэму культурнага турызму.

Залессе не выпадкова было выбранае месцам правядзення канферэнцыі. Аказваецца рэабілітацыя і ўключэнне ў сістэму культурнага турызму сядзібы М. К. Агінскага разглядаецца ў якасці пілотнага праекту будучай нацыянальнай праграмы аднаўлення гістарычных сядзіб. Слаўнае імя Агінскага мусіць паслужыць Беларусі яшчэ раз. Паўночныя Афіны, як называлі сучаснікі сядзібу творца паланэзаў, прызнаныя найбольш прыдатнымі для тога, каб пайсці ў авангардзе адраджэння бясконцай колькасці сядзібных і сядзібна-паркавых ансамбляў Беларусі. І хоць работы тут непачаты край, праведзеная канферэнцыя дала надзею, што да пачатку гэтай працы мы ўжо блізкія.

*Яраслаў Грынкевіч.*



**"Паўночныя Афіны"**



**Паланэз у Залессі**

# Менскія гістарычныя семінары

Ведаць гісторыю свайго краю, месца, дзе нарадзіўся і рос - абавязак кожнага чалавека. Пагэтаму з верасня ТБМ імя Ф. Скарыны аднавіла паседжанні гістарычнага семінару для моладзі Менска.

Запланавана, што з цікавымі выступленнямі пра горад Менск выступяць пісьменнікі і гісторыкі Уладзімір Арлоў, Вольга Іпатава, Анатоль Грыцкевіч, Кастусь Тарасаў, Захар Шыбека і іншым.

На першых занятках, якія праводзіў доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Грыцкевіч сабралася шмат людзей, усе нават не змяшчаліся ў зале сядзібы. Прафесар пачаў свой расповяд з пераліку напісаных пра Менск твораў. Многія ўжо вельмі састарэлі.

Потым дакладчык расказваў пра ўзнікненне горада і паступовае яго развіццё, пра назвы старажытных вуліц, мову, насельніцтва, умацаванні горада ды іншае. Прысутныя даведаліся, што на месцы цяперашняга стадыёна "Дынама" былі яўрэйскія могілкі чаму Менск стаў Мінскам, пра ўзнікненне чыгункі, пашырэнне, раней вельмі малога і дрэнна ўмацаванага горада і пра шмат што іншае.

Спадар Грыцкевіч зацікавіў усх настолькі, што заняткі па часе вельмі зацягнуліся, аказваецца людзі вельмі цікавяцца мінуўшчынай. Прафесар даваў адказы на шматлікія пытанні разам са старшынём ТБМ кандыдатам гістарычных навук Алегам Трусавым.

*Ірына Секержыцкая.*

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"

**ПРАВОДЗІЦЬ ГІСТАРЫЧНЫЯ СЕМІНАРЫ ДЛЯ МОЛАДЗІ МЕНСКА!**

З цікавымі выступленнямі і паведамленнямі пра мінулае і сучаснае нашай сталіцы выступаюць вядомыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі. Сярод іх **Уладзімір Арлоў, Кастусь Тарасаў, Вольга Іпатава, Віталь Скалабан, Анатоль Грыцкевіч.**

***Чарговыя сустрэчы адбудуцца***
***22, 23, 24 і 25 верасня ў 18.00***
***у сядзібе ТБМ па адрасе: вул. Румянцава, 13***

**22 верасня** перад прысутнымі выступіць доктар гістарычных навук, прафесар **Анатоль Грыцкевіч**. Тэма семінара: "Гістарычная тапаграфія і тапаніміка Менска".

**23 верасня** перад прысутнымі выступіць пісьменніца **Вольга Іпатава**. Тэма семінара: "Менскія ваколіцы".

**24 і 25 верасня** перад прысутнымі выступіць пісьменнік Кастусь Тарасаў. Тэма семінараў: "Менскія ваколіцы".

Запрашаюцца абітурыенты, студэнты і аспіранты з Менска і ваколіц.

# Шаноўныя сябры ТБМ

*Падрыхтоўка і правядзенне чарговага з'езду Таварыства патрабуе вялікіх выдаткаў. Просім вас зрабіць свой пасільны ўнёсак у падрыхтоўку гэтага найважнейшага для арганізацыі мерапрыемства.*

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015212330014 Асабовы рахунак 764

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Разам | |

**Касір**

Плацельшчык

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015212330014 Асабовы рахунак 764

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Разам | |

Квітанцыя

**Касір** **М.П.**

Плацельшчык

# Вучань! Сябра! Паплечнік!

Ён любіў родны край, бацькоўскую зямлю, слова, мову, на якой размаўляюць палешукі, песні, якія яшчэ з матулінага прыполу мілагучна гучалі ў душы. Ён пачынаў танчыць у ансамблі танца "Прыпяць" яшчэ малым, і так усё жыццё, не пакідаючы фальклорныя зерняткі мудрасці, паважліва ставіўся да прыроды людзей.

Ён любіў кветкі, і таму старажытны, сівы Тураў зззяе разнакаляровымі вочкамі прыгожых гранак кветак.

Заўчасна ён, Мікалай Мікалаевіч Арцюшка, пакінуў гэты свет, неяксь раптоўна на 56 годзе не стала на славутай зямлі Кірылы Тураўскага старшыні Тураўскага Савета дэпутатаў.

Яго памятаюць шматлікія суайчыннікі з далёкага і блізкага замежжа. Яго паважалі за шчырасць і адкрытую сардэчную ўсмешку. У памяць гэтага чалавека на яго радзіме ў Тураве будзе створаны дзіцячы тэатр фальклору "Дрыгавічы" і цэнтр рэгіянальнага фальклору Жыткавіцкага раёна, "Матуліна хата". Бывай сябра, паплечнік!

***Навуковы супрацоўнік НДЛ бел. фальклору БДУ,***
***былы кіраўнік ансамбля танца "Прыпяць" Мікола Котаў.***

# 150 гадоў Міхалу Федароўскаму

1 верасня споўнілася 150 гадоў з дня нараджэння Міхала Федароўскага (1853-1923), польскага і беларускага фалькларыста, этнографа, археолага.

Міхал Федароўскі нарадзіўся ў сям'і варшаўскага мешчаніна, па паходжанні кашуба. Слабое здароўе (з 13 гадоў хварэў на туберкулёз) не дало магчымасці атрымаць сістэматычнай адукацыі. Ён скончыў Варшаўскую прагімназію з рускай мовай навучання, быў вольным слухачом Пятроўска-Разумоўскай акадэміі пад Масквой, але паўторнае запаленне лёгкіх вымусіла перапыніць вучобу. Вывучаў філасофію пазітывістаў, літаратуру. Удзельнічаў у фальклорна-этнаграфічных экспедыцыях З. Глогера, зяця беларускага вучонага і пісьменніка А.Ельскага. Збіраў польскі фальклор (выдаў манаграфію "Люд ваколіц Жарак, Севежа і Піліцы"). Быў сябрам Львоўскага этнаграфічнага таварыства, Антрапалагічнай камісіі Акадэміі навук у Кракаве, Польскага краязнаўчага таварыства, Кракаўскага нумізматычна-археалагічнага таварыства, Таварыства сяброў навук у Вільні і інш. У 1877-1904 гг. жыў на Беларусі. Вывучаў побыт, мову, духоўную і матэрыяльную культуру беларускага народа. Быў знаёмы з Я. Карловічам, Ф. Багушэвічам. Сабраў больш за 5000 беларускіх народных песень, больш за 10000 прыказак, прымавак, фразеалагізмаў, сотні казак, павер'яў, прымхаў, парад па народнай медыцыне (фальклорныя матэрыялы ўвайшлі ў працу "Люд беларускі"). У 1972 г. я выдаў манаграфію "Міхал Федароўскі", а ў 1991 г. у перакладзе на беларускую мову працу М. Федароўскага "Люд беларускі: Вяселле" (на падставе этнаграфічных матэрыялаў з яго архіву). Этнаграфічныя рукапісныя матэрыялы М. Федароўскага захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага універсітэта, інстытута літаратурных даследванняў у Варшаве, Навуковага архіву Польскага этнаграфічнага таварыства ў Вроцлаве і інш.

***Янка Саламевіч.***

# Пакровы

***"Прыйшла Пакрова-***
***Усохла дубрава".***
***"Святы Пакроў стагі пакрыў: першы стажок – дранічкамі, другі стажок – саломкаю, трэці стажок – белым снегам"***
***"Бог пачатае зямлю пасля Пакроваў"***

Святы Пакроў у народным і праваслаўным календары прыпадае на 14 кастрычніка.

У Хрысціянстве гэта назва асацыіруецца з паняццем пакрывала Маці Божай.

У народным календары Пакровы закрывалі ўсе земляробчыя работы, адзначалі час адмірання прыроды напярэдадні зімовых халадоў. Старыя людзі тлумачылі так: зямля павінна адпачыць да наступнага лета і чапаць яе пасля Пакроў аж да вясны ні ў якім разе нельга.

Адзначалі: калі на Пакровы зямля не схаваецца пад снегам, то і Каляды пройдуць без снегу. Якое надвор'е ў пакроўскі дзень, такой будзе і ўся зіма. Паўночы вецер на Пакровы прадказваў сцюдзёную зіму, паўднёвы – з невялікімі маразамі:

***"На Пакровы дай сена карове"***
***"Прыйшла Пакрова – не дала малака карова"***

Сярод шматлікіх звычаяў пакроўскага свята, як зазначыў адзін са складальнікаў сучаснага народнага календара У. Васілевіч, найбольш праявілі сябе абходы гаспадарчых пабудоў. Зранку гаспадыні пяклі пакроўскі пірог, з якім абыходзілі хату, хлеў, лазню, пры гэтым дакранаючыся каравеем да стрэх, вушакоў, паляніц хатніх, дваровых пабудоў. Лічылі так можна засцерагчы гаспадарку ад паганых прыродных з'яў у зімовую пару.

Свята Пакроваў падзяляла год на летні і зімовы перыяд. Праца земляроба пераносілася на падворак і ў хату.

На Пакровы заканчваўся выган кароў на пашу, гаспадары разлічваліся з пастухамі і частавалі іх смачнай ежай, дзякавалі за добры дагляд кароўкі.

У гэты час па ўсёй Беларусі гулялі вяселлі, таму Пакроўскіх песень амаль не зафіксавана, а вось вясельных шмат, таксама пагаворак:

***"Прыйшла Пакрова – дзеўка гатова"***
***"Святы Пакроў, пакрый зямлю лістом, траву – сняжком, ваду лядком, а дзеўчыну шлюбным чапцом"***
***"Пакроў. Пакроў. Пакрый нас ад усялякага зла і лютых напасцяў"***

***Мікола Котаў,***
***навуковы супрацоўнік НДЛ беларускага фальклору БДУ.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 15. 09. 2003 г.
Наклад 1750 асобнікаў. Замова № 2108.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
***Кошт у розніцу:*** 175 руб. (у Менску - 185 руб.)